Belarusan Canadian Coordinating Committee
Каардынацыйны Камітэт Беларусаў Канады
Comité Bielorussien De Coordination Au Canada



## КАМУНІКАТ Но. 2 (68 АД 1990), ЛІПЕНЬ, 2002

---

### СЬМЕРЦЬ МІТРАПАЛІТА ПЕРШАЕРАРХА БАПЦ УЛАДЫКІ МІКАЛАЯ

20 чэрвеня, 2002, у гошпіталі ў Таронта памёр на 85-м годзе жыцьця Мітрапаліт Першаерарх БАПЦ Уладыка Мікальай. Быў гэта чацьвер, а ў нядзелю, 16 чэрвеня, Уладыка Мікалай адслужыў яшчэ ў БАПЦ сьв. Кітылы Тураўскага ў Таронта Сьв. Літургію, у апошні раз даваў вернікам Сьвятую Эўхарыстыю .

Так відаць было ў Пляне Божым, даць Уладыку Мікалаю магчымасьць адпраўляць Вялікапостныя й Вялікодныя Багслужбы й апошнюю Багслужбу перад сьмерцьцю якраз у БАПЦаркве Сьв. Кірылы Тураўскага ў Таронта, дзе 48 год таму назад Ён, як айцец Міхал Мацукевіч распачаў сваю душпастырскую дзейнасьць Багаслужбай 4 кастрычніка, 1954 году.

Быццам гэтым Бог сказаў Уладыку Мікалаю : WELL DONE!

22 чэрвеня, у суботу ў той жа БАПЦаркве ў Таронта а 3-ай гадзіне дня пачаліся пахавальныя Багаслужбы, разьвітаньне беларусаў Канады з сваім верным Душпастырам. Цела Яго будзе спачтываць на Беларускім могільніку імя Жыровіцкае Божае Маці ў Нью Джэрзі, ЗША.

### РАЗЬЗВІТАЛЬНАЕ З УЛАДЫКАМ МІКАЛАЕМ СЛОВА

**Дарагі Уладыка Мікалай!**

Тымчасам бывайце! А там, як станеце перад Прыстолам Божым, прасіце Усемагутнага, каб меў апеку над намі - Вашым статкам, які застаўся на зямлі бяз Пастыра.

А быў Уладыка Мікалай, Мітрапаліт Першаярарх БАПЦ , нашым душпастырам праз 48 гадоў - чуць не паўстагодзьдзе.. І ўся ягоная душпастрырская дзейнасьць заўсёды цесна была зьвязана зь беларускім нацыянальным жыцьцём - зь беларускім вызвольным рухам.

Калі ў канцы 40-х гадоў заснавалі мы першую ў Канадзе беларускую нацыянальную арганізацыю - Згуртаваньне Беларусаў Канадцы - нам трэба было здабыць маральную для яе апору - сваю **Беларускую Аўтакэфальную Праваслаўную Царкву.** На гэта нам патрэбны быў сьвятар, які падпарадкаўся бы БАПЦ . Быў у Таронта беларускі сьвятар, але ён не хацеў далучыцца да БАПЦ.

Адзін сярод нас малады сябра, Міхась Мацукевіч, ідчы за натуральным



54 Mary St., Barrie, Ontario, Canada, L4N 1T1 Tel/Fax (705) 725- 8654

голасам-пакліканьнем, вырашыў пасьвяціць сваё жыцьцё службе Богу й Бацькаўшчыне-Беларусі. На гэта патрэбная была яму ня толькі духовая але й тэалягічная падрыхтоўка. Дзеля гэтага ён накіраваўся ў духоўную сэмінарыю ў Вініпэгу, якую закончыў ў травені 1954 году й там жа быў высьвячаны ў сьвятарскі сан.

У Таронта тым часам пад канец лета 1954 году ЗБК купіла першы беларускі дом у Канадзе, што на Дандас 1000. Старшынём ЗБК быў тады сьв. пам. Алесь Грыцук, сакратаром - Мікола Ганько. Даўно нябожчыкі. З двох найпрыгажэйшых пакояў дому пабудавалі мы першую ў Канадзе капліцу БАПЦ сьв. Кірылы Тураўскага. Як помнік памяці Мечыславу Рачыцкаму, рыма-каталіку, дагэтуль у нашай царкве знаходзяцца , памастацку зробленыя ім, Царскія дзьверы Іканастасу.

Першая Багаслужба ў БАПЦ у Таронта, якую ўрачыста адправіў айцец Міхал Мацукевіч , адбылася 2-га кастрычніка , 1954 году.

20 лістапада, таго-ж году, адбылося ўрачыстае асвячэньне Беларускага Дому ў Таронта Яго Праасьвяшчэнствам Архіяпіскапам БАПЦ Уладыкам Васілём зь Нью Ёрку, у прысутнасьці вялкіай колькасьці суродзічаў з Канады й ЗША, чуць ня ўвесь Клівэлянд прыехаў.

Праз 5 год сялібай ЗБК і БАПЦ быў дом на Дандас 1000. У 1959 годзе быў куплены й уладжаны Беларускі Рэлігійна Грамадзкі Цэнтр на 524 Ст. Клярэнс Аве., а ў ім і капліца БАПЦ .

Але-ж, каб усё гэта асягнуць, нам патрэбвныя былі, апрача энтузіязму й працы, і фонды. Айцец Міхал, пазьнейшы Мітрапаліт БАПЦ энэргічна й ахвярна езьдзіць па ўсіх блізкіх і далёкіх асяродках, дзе толькі жывуць беларусы, расказвае ім пра Беларускі Дом, пра БАПЦ, пра патрэбу свае беларускае царкву, просіць аб ахвяры і беларусы скрозь адгукаліся пазытыўна.

Агульна прынята, што сьвятара ўтрымоўвае парафія. Але наш айцец Міхал у нядзелі й сьвяты служыць у царкве, а на працягу тыдня працуе ў фабрыцы, каб зарабіць на сваё ўтрыманьне. І гэтак працаваў ён у фабрыцы праз пятнаццаць год, аж да часу, калі ў 1969 годзе стаўся Япіскапам. Тады нашае грамадзтва сказала, што япіскап ня можа працаваць у фабрыцы.

Айцец Міхал, пасьля Уладыка Мікалай , Мітрапаліт Першаерарх БАПЦ быў вялікім беларускім патрыётам. Гэта Ён рупіўся, каб нашая малітва да Усемагутнага йшла на мове, якую даў нам сам БОГ - пабеларуску. Ён працуе над перакладамі Багаслужбаў на беларускую мову. Дзякуючы сьветлай памяці Уладыку Мікалаю, у Таронта Багслужбы адпраўляюцца пабеларуску, Сьвятое Евангельле й Апостал чытаецца пабеларуску. Наканец Багаслужбы гімн «Магутны Божа», асабліва раней, сьпявалі ўсе прысутныя на Багаслужбе вернікі , а не толькі хор.

Нядаўна Выйшла з друку Біблія ў перакладзе на беларускую Мову Васіля Сёмухі. Тыя, хто бачыкі гэту кнігу кажуць, што на першай яе бачыне з падзякай гаворыцца пра Мітрапаліта Першаерарха БАПЦ Улкадыку Мікалая. Вось гэтая Біблія й плёны ўсяе карпатлівае працы Уладыкі Мікалая, застануцца трывалым па ім помнікам .

А нашчадкі абдораць Вас, Уладыка Мікалай, Вечнаю Памяцьцю.

22 чэрвеня, 2002. Раіса Жук-Грышкевіч

## «УСІХ ПАМЯТАЕМ МЫ» пісала Натальля Арсеньнева

Як адыйходзіць хто ад нас - із сумнай
пакорай мы яго вядзём у нябыцьцю.
Ці ён адзін адведаў крыўд і глуму,
быў на замлі чужынцам і гасьцём?
Усё-ж мінае
срэбныя туманы
і жоўты жаль асеньніх вечароў ,
надзеі маладыя нашых раньняў,
і год даўгіх раз - гора, раз - дабро...
Адлі ў шэрыя сутоньні лістападу
тугою трапяткой мы ўсё-ж усе гарым ,
і трызны залатыя ў сэрцы ладзім
тым, каго ў песьнях клічуць «змагары».
У сініх сасьнікох айчыны несьмяротнай
за шчасьце ейная яны тады ляглі.
Кладуцца і цяпер, крадком, у вадзіноце
і дзе канцы -
ці скажа хто й калі?
Ўсіх памятаем мы...
Нас паляць успаміны
і прыйдзе дзень -
мы ўспыхнем, як зьнічы.
За змагароў , за лёс таптанае радзімы
не паміраць,
мы жыць паймкнём у далечынь!
1943 г.

## ПЯТЫЯ ЎГОДКІ СЬМЕРЦІ НАТАЛЬЛІ АРСЕНЬНЕВАЙ

25 ліпеня 1997 году ў Рочэстар, ЗША, на 94 годзе жыцьця памерла нашая слаўная паэтка, аўтарка рэлігійна-нацыянальнага гімну «Магутны Божа!». Нашчадкі-беларусы будуць памятаць Яе перадусім за тыя творы, у якіх яна выражае свю духовую лучнасьць з народам. Прыкладам верш -

### «НАД ПАЎСТАНСКАЙ МАГІЛАЙ»

... Крыжы стаяць, няхай - пакленчалі яны.
Ці-ж лёгка несьці год важкіх і чорных ношу ?
Ня ў памяць пэўна й ім , каго тут кон спыніў,
ці колькі іх зьлягло,
вясёлых і харошых...

Ці ішлі яны ў бой із песьняй маладой,
ці доўга несьлі боль, аж палі гэтта ніцма,
ці на Дзяды мядзяныя , увосені,
зь бядой
прыходзіць хто па іх паплакаць ,
памаліцца?
Ці горка ім было, як зьнічкі, дагараць,
ледзь да прысягі Бацькаўшчыне ўзьняўшы
рукі,
ці ведаюць яны,
што за народ , за край
крывавяць скрозь яшчэ браты, сыны ды
ўнукі?
Ці звоняць з году ў год ім звонкія лісты
і «памяць вечную», і «са сьвятымі»?
Ці знаюць -
не памрэ ніхто й ніколі з тых,
што аддалі жыцьцё,
каб жыць магла Радзіма?
Ідучы за Яе ў нямінучы бой ,
як сьцяг ахрышчаны крывёю , кожын
змагар іх памяць панясе з сабой...
І - параможам!

1952 г.

## ТЫ НЕ АДНА

Ты на адна,
о, Случчына,
ні першай
ты ня была ў нас, ні на табе - канцы.
Нядолю й славу нашую ня прыцярушыць
стынь.
Ублытаны яны нат у чужыя вершы -
Монтэ Касына
і Катынь...
І, неаплаканых сьлязою жоўтай воску,
Іх - слуцкіх ці наваградзкіх - ляжыць
ці мала ўжо уздоўж бязьмежнае мяжы
зямлі, у нетры тайгавай, на ўскраі родных
вёскаў...
Крыжы бо ўсюдах
і крыжы...

Было ўсяго ў нас: паходаў трубы, горны
баёў, распаленых да чыртвана, мячы,
нязможныя пад Воршай , і мячы
Грунвальду... шлях да мораў торны...
І Каліноўскага
пачын...
- Быў Сакавік...
Але...
і вал счарнелых целаў
у палынох сівых пад Ворскляй....
Амсьціслаў...
Вядроша... Быў вякі чужым папас,
паплаў...
І быў - ды й ёсьць - Усход. крывавы
і дадзелы,
што лёс на каркі
нам усклаў.
Хто нас не прадаваў, ня браўся йрваць
з карэньнем ,
хто парасткаў зялёных не таптаў?
Ці ўвосень не па іх галосе Палата,
ўздыхае прадзед-Нёман, і старэнна
складае сказ народ....
Хай так...

Ды мы - жывыя ўсьцяж, нат тыя, што,
памершы,
і заўтра ўжо мо зноў лынуць у бой байцы
жаўнерскай песьні губячы гасьцінцам
шумняльцы,
бо - не адна ты, Случчына, у нас.
Ні першай
ты ня была,
ні на табе канцы.
1960 г.

Апрача літаратурнай дзейнасьці Натальля Арсеньнева побач свайго мужа генэрала Франьціша Кушаля была палітычнай, грамадзкай й асьветна-культурнай дзеячкай. Але перадусім сваімі натхняльнымі песьнямі-вершамі яна варушыла, будзіла . уздымала да вышынь душы беларускага грамадзхтва. Чым жывілоіся на працагу другой паловы мінулага стагодзьдзя душы беларускіх жаўнераў, скаўтаў , ды наагул моладзі. як ня ейнымі вершамі-песьнямі. Зь якім гімнам падымалі беларускія жаўнеры й скаўты кожнаю раніцай бел-чырвона-белы сьцяг, як ня ейнай песьняй - **«ПРЫСЯГА»**:

Беларусь!
Наша маці-краіна!

Ты з нас моцных зрабіла людзей.
Не загінулі мы й ня зьгінем,
пакуль Ты нас наперад вядзеш!
Пастаім за Цябе, як асілкі ,
нашы сэрцы палаюць агнём,
дружна, мужна
за лёс Твой расьцьвілы
супраць Чорнае Моцы мы йдзём.
Не шкада нам жыцьця маладога,
не шкада нам гарачай крыві,
абы толькі праменнай дарогай
крочыў горда народ наш жывы!
Прысягаем
Табе мы сягоньня,
што пакуль хоць адзін з нас жыве, -
нашай слаўнай Крывіцкай Пагоні
мы ня зганьбім,
мы ўславім яе!
1943 г.

Якім улюбёным маршам жаўнераў, скаўтаў ды наагул моладзі была песьня, як ня ейная:

**У ГУШЧАРАХ**

У гушчарах, затканых імглою,
шэрым змрокам на золку, у зару
ахвяруем Табе мы сабою,
кожны дзень, кожны час, Беларусь!
І няма ў сэрцы жаху ні жалю,
мы адвагай змагарнай гарым;
не чужыя варожыя сілы,
але Ты нас вядзеш да зары.
Мы верым, яна разгарыцца,
ўстане зноў над краінаю дзень,
бо ня стане змагар, не скарыцца
Прад нагодай ніколі, нідзе.
Хмараў дым над галовамі тае,
вецер дыхае мятай, быльлём,
Беларусь, Беларусь залатая,
За Цябе, за Цябе мы ідзём.

Якім гімнам у беларускіх бажніцах мы канчаем Багаслужбы, як ня гімнам «Магутны Божа!». Словы гімну «Магутны Божа!» вылітры на бронзавай табліцы на Беларускім памятным Крыжы ў "Martyrs' Shrine in Midland, Ontario " ў Канадзе. Натальля Арсеньнева была ўдзельніцай пабудовы Беларускага Крыжа й выданьня Малітоўных картак у беларускай мове для касьцёлу прошчы - "Martyrs' Shrine".

Паэтка апела асьвячэньне Беларускага памятнага Крыжа -

**КРЫЖ**

Як вокам ськівуць -
сьяцяг пушчаў сініх...
За пушчай далеч, ашчэ сіней...
А тут, на ўзвышшы, стаіць над намі
наш Крыж прыгожы, маўляў у сьне...
Шмат чулі сьвету крыжы маленьняў,
шмат просьбаў, выкліканых бядой.
Прыйшлі й мы у прошчу сагнуць каленьні,
сьвяціць ня нечы ўжо крыж, а свой.
«Зрабі свабоднай, зрабі шчасьлівай
краіну нашу, маліўся хор,
і ўторыў натаўп, і сьпелай нівай
хіліўся., ветру на перакор.
- «Магутны Божа», бяз слоў прасілі
мы ўсе, а рукі ўзьняўшы ўзвыш
стаяў нязрушна на ўзгорку сьхіле
ён, гэткі родны ўжо сэрцу Крыж.
Тут дождж імгненна каменьне сьпляміў ,
рассыпаў кроплі ў траве, у лісьці...
Няйначай -
І Нехта дзесь там, над намі.
наш Крыж вадою сьвятой хрысьціў.

Прошча, 5 верасьня, 1988 год.

У **«МАЛІТВЕ» - «МАГУТНЫ БОЖА!»** выражана душа ня толькі Паэткі, а ўсяго ейнага Беларускага Народу. Не дарма-ж народ жадаў, каб «Магутны Божа» быў ягоным Нацыянальным Гімнам.....

Багатая паэтычная торчасьць Паэткі - гэта трывалы, нязьнішчальны часам, манумэнт памяці Натальлі Арсеньневай.

29 чэрвеня, 2002. Раіса Жук-Грышкевіч

---

**ЛІСТ ЗЬ БЕЛАРУСІ, з 26 чэрвеня, 2002**

Ад спадара Сяргея Законьнікава, паэты, сябры Рады Беларускага ПЭН-цэнтру, сябры Назіральніка сойму Беларускага Хэльсінскага камітэту.

Зьмест ліста - на наступнай бачыне.

---

Ліпшнь, 2002
Бэры, Канада

Др. Раіса Жук-Грышкевіч
Былы Страшыня ККБК

54 Maru St. Barrie, Ont. L 4 N ITI Canada 8 105 514 725 86 54

Шаноўная спадарыня Раіса!

Я не маю звычкі абцяжарваць нейкімі сваімі клопатамі людзей, але падзеі, якія адбываюцца зараз у Беларусі, змушаюць.

Нядаўна гвалтоўным рашэннем часопісы "Полымя", "Нёман", "Крыніца", "Маладосць" загнаны зноў у "калгас" (агульную "Рэдакцыйна-выдавецкую ўстанову "Літаратура і мастацтва") пад жорсткі цэнзурны нагляд адыёзных асобаў з ліку атачэння А.Лукашэнкі.

Усе сумленныя пісьменнікі ў знак пратэсту выйшлі з рэдакцыйных калегій, забралі творы з рэдакцый. Цяпер яны пазбаўлены права на свабоду думак і слова, права на свайго чытача.

У адказ на рэпрэсіі ўладаў мы вырашылі тэрмінова стварыць незалежны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс. Гэтым самым можна захаваць сваіх сталых, настаянных падпісчыкаў і заваяваць увагу новых.

У рэдакцыйную Раду часопіса ўвойдуць выдатныя дзеячы культуры і навукі Беларусі (Васіль Быкаў, Янка Брыль, Рыгор Барадулін, Генадзь Бураўкін, Ніл Гілевіч, Радзім Гарэцкі, Генадзь Лыч, Васіль Шаранговіч, Аляксей Марачкін...). Было б выдатна, каб згоду на ўваходжанне ў склад Рады далі і Вы.

Усе творчыя магчымасці для выпуску новага часопіса ў нас ёсць. Аднак, далейшую працу стрымлівае абмежаванасць фінансавых рэсурсаў і адсутнасць належнай тэхнічнай базы. Мы вымушаны працаваць на грамадскіх пачатках. Але ёсць такія патрэбы, якія вымагаюць грошай: закупка паперы, іншых расходных матэрыялаў, аплата паліграфічных паслуг, арэндная аплата маленькага прытулку для нешматлікай рэдакцыі (чатыры чалавекі).

З улікам сённяшніх цэнаў і падаткаў, якія існуюць у Беларусі, усяго на выпуск аднаго нумара часопіса (аб'ём 15 улікова-выдавецкіх аркушаў, наклад 2000 асобнікаў) патрэбна каля 10 мільёнаў беларускіх рублёў або 5500 умоўных адзінак. З такой фінансавай праблемай нам адным не справіцца. А ў гэтым годзе неабходна выпусціць хаця б два нумары часопіса, каб падбадзёрыць пісьменнікаў, каб стварыць выданню, як мага хутчэй, рэкламу, своечасова заняць менавіта сваю нішу ў інфармацыйнай прасторы Беларусі, трапіць у падпісны каталог.

У бліжэйшы час мы аб'яўляем збор сродкаў, каб часопіс быў сапраўды ўсенародна падтрыманы. Звяртаемся па дапамогу і да калегаў-літаратараў Германіі, Польшчы, Расіі, Літвы, Латвіі.

Шаноўная спадарыня Раіса! Калі ласка, паведаміце аб гэтай просьбе суайчыннікам-сябрам. Можа, знойдуцца, хоць нейкія магчымасці, каб падтрымаць незалежнае выданне. Гэта надзвычай важна якраз цяпер, на стадыі арганізацыі і станаўлення часопіса. Пасля, калі мы даможамся падпіскі, стане лягчэй выжываць.

Зычу добрага здароўя і поспехаў ва ўсіх Вашых справах.

Сяргей Законнікаў, паэт, сябра Рады Беларускага ПЭН-цэнтра, сябра Назіральнага сойма Беларускага Хельсінскага камітэта

Мой адрас: вул. Пуліхава, 29—134, 220088, Мінск, Беларусь.
Тэлефон (хатні): 2 36 99 76; факс + 375 17 2236366